# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 15 (2261) 9 красавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).



## ВІЛЬНЯ ВІТАЕ НАШУ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Дзень 25 сакавіка пакуль не аб'яўлены дзяржаўным святам Беларусі, але суседняя рэспубліка Літва сёлета адзначыла яго шырока і ўрачыста. Афішамі, надрукаванымі кірыліцаю і лацінкаю, быў заклеены ўвесь горад. Вечарам 25 сакавіка ў літоўскім драматычным тэатры адкрыліся Дні беларускай культуры. Пры гэтым літоўскі аркестр «Трымітас» выканаў Купалава «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а затым — літоўскі нацыянальны гімн. На вечары выступілі Вітаўтас Ландсбергіс, Станіслаў Шушкевіч і прадстаўнік беларусаў у Вільні Лявон Луцкевіч, сын Антона Луцкевіча. Артысты купалаўскага тэатра паказалі ўдзельнікам урачыстасці спектакль «Тутэйшыя». У запоўненай дарэшты зале гучалі беларуская, літоўская, руская мовы —тут сабраліся ўсе тыя, ад каго залежыць лёс беларушчыны ў Літве і захаванне гістарычнай місіі Вільні як сталіцы трох народаў — літоўскага, беларускага і польскага.

**НА ЗДЫМКУ: С. ШУШКЕВІЧ гутарыць з прадстаўнікамі таварыства беларускай культуры ў Вільні.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

***«КРУГЛЫ СТОЛ» ПА ПРАБЛЕМАХ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ***

## МЫ ТОЛЬКІ НА ШЛЯХУ ДА СВАБОДЫ

*22 сакавіка ў Доме літаратара ў Мінску адбыўся «круглы стол» па праблемах гісторыі Беларусі і яе выкладання ў навучальных установах рэспублікі. Яго правядзенне было прымеркавана да 74-х угодкаў з дня абвяшчэння незалежнасці Беларусі. У «круглым стале» прынялі ўдзел вядучыя гісторыкі Беларусі, спецыялісты навучальных устаноў розных узроўняў, народныя дэпутаты, прадстаўнікі апазіцыі ў беларускім парламенце. Арганізаваны БНФ «круглы стол» быў праігнараваны толькі афіцыйнымі асобамі Міністэрства адукацыі рэспублікі. Між тым, на ім было выказана шмат канструктыўных думак для стварэння канцэпцыі як напісання самой гісторыі Беларусі, так і яе выкладання. Надзвычайная актуальнасць гэтых праблем для сённяшняй Беларусі і яе будучыні відавочная. Таму ёсць сэнс чытачам нашай газеты азнаёміцца з выступленнямі ўдзельнікаў «круглага стала».*

**Міхась ТКАЧОЎ, доктар гістарычных навук.**

— Тэма, якая сабрала нас за гэтым «круглым сталом», вельмі надзённая, важная. Гэта практычна разгляд праблемы выхавання грамадзяніна нашай дзяржавы. Гэта подступы да той самай клеткі, дзе сядзіць закаваная ў жалеза жарптушка нашай гісторыі. Несамавіты сёння выгляд у той птушкі па адной простай прычыне: за апошнія 200 з гакам гадоў многія стараліся павырываць з яе найлепшыя пёры для сваіх імперскіх убораў. Велізарная цяжкасць для выкладчыкаў нашых навучальных устаноў, школ — гэта старыя метадалагічныя аковы і догмы, у рамках якіх пакутавала наша айчынная гісторыя на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Як людзі разважлівыя, мы павінны крытычна паставіцца да ўсёй нашай гісторыі савецкага перыяду, ні ў якім разе не закрэсліваць, а выкарыстаць як спецыяльны падручнік, каб ніколі ў будучыні не паўтарыць тых памылак, якія мы мелі на гэтым вельмі цяжкім, пакутлівым шляху да свабоды. Думаю, што гістарычная неадукаванасць народа — гэта часовая з'ява, якая можа быць ліквідавана на працягу аднаго пакалення, і мы ўжо пачалі гэту працу. Трэба больш уважліва паглядзець на тое, што забралі ў нас нашы суседзі, што «прысабечылі» дзякуючы таму, што нашы ідэалагічныя кіраўнікі пагардліва адкідвалі мінуўшчыну. І я думаю: дзівосы, якія мы сёння чытаем, скажам, у гістарыяграфіі Літвы, у многіх працах польскіх гісторыкаў, гэта сведчанне таго, што мы махнулі рукой на свае скарбы, якія ў нас паціху забіраюць. Не думаю, што за месяц-другі мы можам перакаваць тыя кадры прафесарска-выкладчыцкія, якія ў нас сёння ёсць. Вось гэты матэрыял найбольш цяжкі, каб падрыхтаваць людзей і каб яны неслі ў народ праўду нашай гісторыі па адной простай прычыне: гэта ўсё дзеці свайго часу, дзеці пэўных гістарычных школ, пераадолець свае пагляды людзям сталага ўзросту вельмі няпроста. Я думаю: каб паправіць сітуацыю, мала абвясціць, што мы селі пісаць новыя падручнікі па гісторыі. Стаіць пытанне аб стварэнні курсаў па перакваліфікацыі гісторыкаў, таму што гісторыя патрабуе вельмі грунтоўных ведаў, шырокага кругагляду, адмаўлення ад старых схем, па якіх яшчэ многія з нас жывуць.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ*




**Знікаюць, застаюцца толькі ў гісторыі некалі абавязковыя атрыбуты савецкага ладу жыцця — сацыялістычнае спаборніцтва, перадавікі вытворчасці, дошкі гонару. Але, калі пахадзіць па нашых установах, прамысловых прадпрыемствах, паездзіць па калгасах, то яшчэ часта і густа вока натрапіць на пажоўклыя аркушы «сацыялістычных абавязацельстваў», якімі ўвешаны сцены кантор і праўленняў.**

**А вось манументальныя дошкі гонару, зробленыя з бетону, якога хапіла б на добры падмурак дома, зеўраць пустатой — няма на іх фатаграфій «лепшых па прафесіі», «лепшых у спаборніцтве» ды іншых лепшых. Але людзей гэта не праймае. Яны не заўважаюць адсутнасці фатаграфій, як і мала звярталі ўвагі на іх у той час, калі яны былі прылепленыя на дошцы гонару. Бо ўсё гэта было надуманае, рабілася адно дзеля прапаганды. Ні ў адной нармальнай краіне такога няма.**

**Дык можа дошкі гонару застануцца на нашых плошчах як музейныя экспанаты, якія нідзе больш не ўгледзіць іншаземец!**

**Фота В. СТАВЕРА.**

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ

## БЕСПРАЦОЎЕ ЯК ЛАВІНА

У сувязі з пераходам эканомікі рэспублікі на рыначныя адносіны ўсё больш востра дае аб сабе знаць праблема беспрацоўя, адзначыў у сваім выступленні на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў РБ старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларусі па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Г. Бадзей. Так, у 1991 годзе ў службу занятасці па пытаннях працаўладкавання звярнулася 148,7 тысячы чалавек. За шэсць месяцаў пасля ўвядзення Закона аб занятасці (з 1 ліпеня 1991 года) у рэспубліцы прызнана беспрацоўнымі 3 384 чалавекі, з іх атрымалі дапамогу 2 261 чалавек. Паводле экспертных ацэнак, з дзеючай матэрыяльнай вытворчасці ўжо ў гэтым годзе можа быць вызвалена дадаткова да 25—30 працэнтаў працуючых. Найбольш безабароннымі перад тварам гэтай пагрозы аказваюцца жанчыны, моладзь — выпускнікі прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ, а таксама звальняемыя ў запас ваеннаслужачыя.

Прэзідыум Савета Міністраў зацвердзіў Праграму занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 1992 год. На яе ажыццяўленне ў Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці будзе пералічана больш за 1 мільярд рублёў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА



Яшчэ адзін крок на шляху ўмацавання ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва зрабілі рэспублікі Беларусь і Польшча: падпісана міжурадавае пагадненне аб арганізацыі перавозак паміж дзвюма дзяржавамі.
Дакумент, які падпісалі ў Мінску міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і намеснік міністра транспарту і суднаходства Рэспублікі Польшча Збігнеў Сулятыцкі, прадугледжвае арганізацыю і рэгуляванне перавозак грузаў непасрэдна паміж Беларуссю і Польшчай чыгуначным і аўтамабільным транспартам з выкарыстаннем польскіх марскіх партоў. Для гэтых мэт будзе створана сумесная Беларуска-Польская экспедытарская фірма. Беларускім знешнегандлёвым арганізацыям, якія будуць карыстацца яе паслугамі, польскі бок прадаставіць ільготныя крэдыты.
НА ЗДЫМКУ: момант падпісання пагаднення.

У КАЛІДОРАХ НАТО

## СУСТРЭЧА МІНІСТРАЎ АБАРОНЫ

Напярэдадні першага пасяджэння міністраў абароны краін—членаў НАТО і дзяржаў Усходняй Еўропы і былога Саюза СССР у Бруселі адбылася сустрэча выконваючага абавязкі міністра абароны Рэспублікі Беларусь П. Чауса і міністра абароны ЗША Р. Чэйні.

Міністра абароны ЗША асабліва цікавіла палітыка Беларусі адносна абавязацельстваў былога СССР па міжнародных дагаворах у галіне бяспекі, у прыватнасці па Дагавору аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў і Дагавору аб звычайных узброеных сілах у Еўропе.

П. Чаус падкрэсліў, што Рэспубліка Беларусь нязменная ў сваёй палітыцы дасягнення бяз'ядзернага статуса. Выходзячы з гэтага, кіраўніцтва Беларусі і вызначае свае адносіны да ядзернай зброі, якая знаходзіцца на яе тэрыторыі. Да 1 ліпеня 1992 года ў межах беларускіх граніц не застанецца тактычнай ядзернай зброі. У адносінах да стратэгічнай ядзернай зброі таксама была пацверджана ранейшая пазіцыя.

Значная частка гутаркі вышэйшых ваенных кіраўнікоў дзвюх дзяржаў была прысвечана праблемам ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

ВАЧЫМА САЦЫЁЛАГА

## ШТО ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ?

Службай вывучэння грамадскай думкі Савета Міністраў Беларусі праведзена чарговае сацыялагічнае апытанне аб адносінах насельніцтва да рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і адстаўцы ўрада рэспублікі.

Паўтара месяца працягваецца збор подпісаў у падтрымку рэферэндуму, і, як сведчыць аналіз, акцэнты мяняюцца. Становіцца менш жадаючых катэгарычна выказаца за адстаўку кіруючых органаў, а кожны пяты апытаны ўжо цяпер выразна не ўдзельнічаць у галасаванні.

Кожны трэці лічыць, што да ўлады пасля паспяховага правядзення рэферэндуму прыйдуць калі не таталітарысты, то зусім не дэмакраты, а магчыма, доўгі час нам давядзецца цярпець безуладдзе. Толькі чацвёртая частка рэспандэнтаў перакапана ў насумненным дэмакратызме новых улад, а яшчэ адна трэць—не можа зрабіць нейкі прагноз. Што тычыцца эканомікі, то наўрад ці простай заменай цяперашніх структур улады можна паправіць крызісны стан. Да таго ж больш верагодна значнае пагаршэнне становішча—у гэтым упэўнены кожны трэці апытаны незалежна ад прыналежнасці да той ці іншай сацыяльнай групы.

ПРОЦІСТАЯННЕ

## ШАХЦЁРЫ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ ГАЛАДОЎКУ

Шахцёры Салігорска ўжо тры тыдні праводзяць забастоўку, трое з іх аб'явілі 31 сакавіка аб пачатку бестэрміновай галадоўкі.

Яны пратэстуюць супраць «крывадушша ўрада, які згаджаецца на словах з патрабаваннямі гарнякоў і не робіць на справе ніякіх канкрэтных крокаў». Рабочыя патрабуюць падпісання новага тарыфнага пагаднення, павелічэння сярэдняй заработнай платы да 13—16 тысяч рублёў, права распараджацца часткай валютнай выручкі ад экспарту калійных угнаенняў.

РАШЭННЕ УКРАІНЫ

## СПЫНЯЦЬ ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ АЭС

Кабінет міністраў Украіны прыняў пастанову аб мерах па вываду Чарнобыльскай АЭС з эксплуатацыі.

Прадпісана забяспечыць спыненне ў 1993 годзе першага і трэцяга энергаблокаў (другі энергаблок спынены ў 1991 годзе). Да 1995 года будзе праведзена комплекснае інжынернае абследаванне атамнай станцыі, распрацаваны тэхнічны праект і пачнецца вывад яе з эксплуатацыі.

НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ЯЎРЭЯЎ

## МАЛЕНЬКІ АСТРАВОК ІЗРАІЛЯ

Культурна-інфармацыйны цэнтр адкрыўся ў Мінску пад эгідай Ізраільскага фонду культуры і асветы ў дыяспары і заснаваны пры садзейнічанні фондаў «Рыч» і «Азрыэль».

Цяпер не толькі ў яўрэяў, але і ва ўсіх жадаючых з'явілася магчымасць атрымаць самую свежую і дакладную інфармацыю з Ізраіля. У цэнтр будуць паступаць газеты і часопісы, якія выходзяць там. Тут сабрана багатая бібліятэка, што ўтрымлівае літаратуру па ўсіх галінах жыцця. Маецца таксама вялікая відэатэка. У планах—арганізацыя розных культурных мерапрыемстваў, семінараў і курсаў.

НА ПАГРАНЗАСТАВЕ

## СЛУЖЫЦЬ — У БЕЛАРУСЬ

Толькі беларусамі папоўніўся цяпер асабовы састаў пагранзаставы імя Аляксандра Сівачова. Адны прыбылі сюды ў якасці навабранцаў, другія пераведзены з Украіны.

Як паведаміў начальнік гродзенскага пагранатрада палкоўнік Іван Касавец, цяпер 96 працэнтаў асабовага саставу — ураджэнцы Беларусі.

ДЗЕЛІМ НА 15

## ЗАЛАТЫ І АЛМАЗНЫ ФОНДЫ

30 сакавіка ва ўрадавай рэзідэнцыі «Заслаўе» сабраліся для кансультацыі кіраўнікі нацыянальных банкаў СНД. У выніку папярэдняй дамоўленасці павінны былі прысутнічаць прадстаўнікі толькі 13 рэспублік былога Саюза. Але на нарадзе ў Заслаўі сабраліся прадстаўнікі ад усіх пятнаццаці рэспублік.

Самым галоўным пунктам сустрэчы было пытанне аб раздзеле фінансаў Саюза, у тым ліку залатога і алмазнага фондаў. Праблема, якая датычыла раздзелу актываў і пасіваў Дзяржбанка СССР, здаецца, скранулася з месца. Як заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Расіі, да 20 красавіка будзе ўдакладнены ўвесь залаты і алмазны фонд Дзяржбанка і падзелены паміж рэспублікамі.

ЭКАЛОГІЯ І ЧАЛАВЕК



Жыццё пераконвае, што ўмяшанне чалавека ў працэсы, якія адбываюцца ў прыродзе, ніколі не застаецца беспакараным. Яшчэ адно таму пацвярджэнне—салёны лес, што «вырас» на Гомельшчыне.
Па тэхналогіі пры здабычы нафты скарыстоўваецца даволі салёная вада. Яю запаўняюць шчыліну, а затым па замкнутым цыкле яна вяртаецца ў закрытую ёмістасць. Па недагляду ці іншай прычыне гэтая вада трапіла ў бліжэйшае балота. У выніку лес вакол яго стаў сухім. Яго нельга скарыстоўваць нават як паліва: з-за вялікага насычэння соллю ён не гарыць у печы.
Вядома, нафта нам патрэбна, асабліва цяпер. Але ўсё ж не такой цаной...
НА ЗДЫМКУ: салёны лес каля вёскі Елізаравічы, дзе размешчана Асташкінскае нафтавае радовішча.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Замест ленінскага камуністычнага суботніка, які праводзіўся штогод, Савет працоўнага калектыву і прафсаюзны камітэт рэфрыжэратарнага дэпо ў Маладзечне вырашылі правесці 18 красавіка суботнік з нагоды Вялікадня.

◆ З пачатку 1992 года брэсцкімі мытнікамі канфіскавана кантрабанда: 1 кілаграм 277 грамаў золата, 35,7 тысячы амерыканскіх долараў, 1 мільён 783 тысячы рублёў, 1 200 бутэлек гарэлкі.

◆ На 70 мільёнаў рублёў заключана здзелак у час правядзення ў Мінску міжнароднага кінарынку. Больш за 500 чалавек прадстаўлялі на ім былыя рэспублікі былога СССР, краіны Балтыі, ЗША і Турцыю.

◆ У 1990 годзе ў Мінску ад атручвання алкаголем памерлі 155 чалавек, у 1991-м —ужо 247. Па прагнозах пракуратуры, сёлета гэтыя трагічныя лічбы будуць значна большымі.

◆ Нацыянальная бібліятэка Беларусі (былая «Ленінка») пад пагрозай закрыцця. Гарадская пажарная інспекцыя закрыла 90 працэнтаў кнігасховішчаў, вялікая колькасць кніг знаходзіцца на драўляных паліцах, якія могуць загарэцца ў любы момант. Зараз чытачы бібліятэкі карыстаюцца толькі той літаратурай, што знаходзіцца ў залах.

◆ Зноў у два разы ўзрос кошт міжгародніх тэлефонных размоў. Адна мінута тэлефоннай размовы з Мінска, напрыклад, з любым горадам у Польшчы цяпер будзе каштаваць 24 рублі, з Нью-Йоркам —48 рублёў. Мінута па тэлефоне ў Вільнюс абыдзецца ў 6 рублёў.

ЭКАНОМІМ НА ЯДЗЕ



# ТАКОЕ НАША ЖЫЦЦЁ

У пачатку года давялося пабываць у Мінскім тралейбусным дэпо № 1. Трапіў якраз у абедзенны перапынак. зайшоў на ўчастак запраўкі акумулятараў і жахнуўся: рабочы абедаў у цесным памяшканні, побач стаялі ёмкасці з кіслотамі, шчолачамі... Гэтакі ж малюнак давялося назіраць і на ўчастку вулканізацыі, дзе хімікатаў было яшчэ больш. Так нядоўга і атруціцца, падумалася.

Вырашыў: у дэпо старая, непрывабная сталовая, есці прыходзіцца стоячы, не заўжды чыста. Вось і пазбягаюць рабочыя заходзіць сюды, чакаюць, калі новую пабудуюць.

Літаральна праз некалькі дзён пабываў на станкабудаўнічым заводзе імя Кірава. У механічным цэху зноў убачыў рабочых, якія перакусвалі ля станкоў.

Тут сустрэўся са знаёмым станочнікам Папком, з якім некалі жыў у адным пад'ездзе. Разгаварыліся.

— Ці не шкодна, дзядзька Барыс, — напаўжартам спытаўся я ў Папка, — у вашым сталым узросце харчавацца ўсухамятку? Чаму ў сталовую не пойдзеце?

— Хоць і сапраўды шкодна, затое кашалёк не апустошваецца, — адказаў рабочы.

Да нас у гэты час далучыўся малады хлопец.

— Гэта Віктар. Я збіраюся на пенсію, дык вучу яго сваёй спецыяльнасці. Нядаўна вярнуўся з арміі, — прадставіў хлопца Папок.

— А ты, Віктар, чаму не палуднуеш?

— «Тармазок» не ўзяў, — неахвотна адказаў той.

— Навошта «тармазок», у вас на заводзе такая добрая сталоўка?..

Задаў я гэта пытанне маладому рабочаму і адразу ўспомніў сябе. Вось такім жа хлопцам прыйшоў пасля арміі на трактарны завод. З інтэрнатам не пашанцавала, стаў кватараваўся ў знаёмага. Трэба было і апрануцца, і абуцца, а яшчэ і дзяўчыну ў кіно запрасіць. Заробкі па першым часе не такія вялікія. І тады эканоміў на сталоўках: не заглядваў у гарадскія, а ішоў на свой завод. За капейкі (60—70) можна было добра пад'есці...

— Забудзьце пра той час, — сказаў Барыс Іванавіч, калі я ўспомніў канец шасцідзесятых гадоў, пачатак маёй працоўнай дзейнасці. — Віктару такое не па кішэні. Жыве з маці. Тая часта хварэе, зарабляе мала. Так што спадзявацца хлопцу трэба толькі на сябе, эканоміць на ўсім. Не з яго заробкамі хадзіць у сталовую.

...У абедзенны перапынак я накіраваўся ў сталовую завода. Было тут ціха, бязлюдна. Пацікавіўся меню. Салаты розныя, вінегрэты, свежыя агуркі, малочны, гарохавы супы, катлеты, яшчэ розныя стравы. Чысціня, кветкі — усё было, што трэба, каб і смачна паабедаць, і нават адпачыць.

— Чаму ж так нязвыкла пуста ў вас? — спытаўся я ў загадчыцы сталовай Ліны Іваноўскай.

— З'ява заканамерная. Кошт абедаў у нас павышаўся не раз. І спачатку гэта палохала рабочых. Пройдзе крыху часу, і ўсё ўсталюецца.

Хуценька падлічыў па меню, у колькі абыдзецца абед. Атрымалася крыху больш за чатырнаццаць рублёў (пасля, як быў падрыхтаваны матэрыял да друку, гэта сума значна павялічылася. — **Я. Т.**). Памножыў на 22 рабочыя дні. Атрымалася рублёў трыста. Амаль такі ж заробак мае Віктар (пакуль вучыцца спецыяльнасці). Тут ужо не да дзяўчат, не да паходаў з імі ў кіно, калі адны абеды заробак з'ядаюць.

— Пры нашай сталовай ёсць аддзел паўфабрыкатаў, — прадоўжыла свой расказ Ліна Сцяпанаўна. — Рыба, птушка, гуляш, мяса — за ўсім гэтым заўжды чарга была. Выгадна было рабочым браць усё на месцы, не бегаць па ўсяму гораду, шукаючы прадукты для сам'і ў магазінах. А зараз, пасля павышэння цэн, прайшло дзён дзесяць, і ніводнага кілаграма мяса ніхто не купіў...

Вядома, такая справа не магла задаволіць ні рабочых, ні адміністрацыю завода. Некалькі змянілася сітуацыя, калі на прадпрыемстве прынялі рашэнне даплачваць працаўнікам па 15 рублёў у дзень на абеды.

Але гэта зроблена не ўсюды. На мінскім прыборабудаўнічым заводзе таксама даплачваюць, толькі па 10 рублёў.

— Каб нармальна паесці, спатрэбіцца яшчэ столькі ж грошай даплаціць са сваёй кішэні, — гаворыць служачая завода Ала Кароткая. — Тут працуе і мой муж, зарабляе не так і многа, бо нярэдка яго ўчастак прастойвае з-за недахопу дэталяў. Мы — маладажоны. Добра яшчэ, што нашы бацькі могуць дапамагчы нечым...

— А як быць мне? — скардзілася студэнтка політэхнічнага інстытута Алена Вялічка. — Раней хадзіла ў сталовую завода вылічальных машын. Хапала і двух рублёў, каб разы два на дзень паесці там. Цяпер такія цэны, што страх бярэ. З дому (бацькі жывуць на Магілёўшчыне) дапамогі вялікай не маю. Спачатку спрабавала сама нешта гатаваць — нічога не атрымалася. Мяса купіць — стыпендыі не хопіць, а яшчэ дзе браць грошы на крупы, макароны, а на тое мяса, іншыя прадукты — купоны ці талоны... Вось і прыходзіцца жыць надгаладзь. І не толькі мне.

— Ведаеце, часам хочацца кінуць гэты інстытут і паехаць дамоў у вёску. Там хоць бульбу сваю можна вырасціць, курэй развесці — з голаду не памрэш. А як падумаю, што мне ж няма яшчэ і дваццаці гадоў, апрануцца і павесяліцца хочацца, дык і не ведаю, як быць...

...Пенсіянерка са сталічнага мікрараёна Усход адчула сябе дрэнна і выклікала хуткую дапамогу. Дыягназ быў просты: агульная слабасць ад недастатковага харчавання. І гэта, як сказаў урач, стала тыповай з'явай у наш час, назваў хваробы, што здараюцца ад недаядання.

Усё гэта сумныя прыклады. Рабочы губляе сваё здароўе, падсілкоўваючыся ўсухамятку тым, што возьме з дому, ды яшчэ на складзе, дзе знаходзяцца атрутныя хімікаты; маладажоны адмаўляюцца хадзіць на абед у сталовую, каб зэканоміць грошы на вопратку; студэнтка пакідае інстытут, губляючы мару стаць высокаадукаваным спецыялістам і вяртаецца ў вёску... Факты, якія выклікаюць і горыч, і сум, і сорам за наша жыццё. Але яно сёння такое...

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

**НА ЗДЫМКУ: у сталовай станкабудаўнічага завода імя Кірава.**

**Фота В. СТАВЕРА.**

# ВІЛЬНЯ ВІТАЕ НАШУ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У гэты ж дзень была наладжана вячэра, на якой прысутнічалі В. Ландсбергіс з жонкай, прадстаўнікі літоўскага ўрада, Міністэрства культуры, сталічнай мэрыі, а з беларускага боку — С. Шушкевіч, П. Садоўскі, прадстаўнікі згуртавання «Бацькаўшчына», таварыства беларускай культуры ў Вільні. Па сведчанні старшыні таварыства Х. Нюнькі, атмасфера размоў была самай прыязнай, што, трэба спадзявацца, дасць магчымасць дабівацца большых правоў беларусам Віленшчыны, якія з'яўляюцца карэннымі жыхарамі гэтай зямлі.

Дарэчы, кіраўнікі дзвюх суседніх дзяржаў сустракаліся не толькі на вячэры. С. Шушкевіч меў прыкладна гадзінную гутарку з В. Ландсбергісам. Пра змест размовы старшыня беларускага парламента сказаў журналістам: «Мы змаглі агаварыць самыя актуальныя пытанні ўзаемаадносін паміж Беларуссю і Літвой». С. Шушкевіч паведаміў таксама, што на сустрэчы нямала ўвагі было ўдзелена пытанням літоўска-беларускай дзяржаўнай граніцы, яе абслугоўвання абодвума бакамі, падкрэсліў, што ў гэтай галіне дасягнута поўнае ўзаемаразуменне. Сярод іншых абмяркоўваўся рад эканамічных і іншых праблем, дасягнута дагаворанасць аб парадку іх вырашэння і кантролю за выкананнем.

Адказваючы на просьбу пракаменціраваць паведамленні аб нібыта прагучаўшых з вуснаў міністра замежных спраў Беларусі тэрытарыяльных прэтэнзіях да Літвы, С. Шушкевіч назваў гэтую чутку «анекдотам». Ён сказаў, што ў бліжэйшы час Беларусь і Літва падпішуць адпаведнае двухбаковае пагадненне. Кіраўнік парламента Беларусі заявіў: «Падпісаўшы Хельсінкскае пагадненне, мы ні з аднаго, ні з другога боку не маем права рабіць такія заявы, якія спрабавалі прыпісаць нашаму міністру замежных спраў».

Несумненна, што сёлетнія Дні культуры Беларусі ў Літве сталі падзеяй не толькі культурнага, але і нацыянальнага жыцця беларусаў і літоўцаў і, можа, тых, хто дагэтуль лічыць сябе «тутэйшым», паспрыяюць уважліваму стаўленню літоўскай дзяржавы да грамадзянскіх правоў і культурных запатрабаванняў беларускага насельніцтва. Прыемна, што Літва адчувае неабходнасць спрыяння народам, якія складаюць меншасць у яе дзяржаве. У Віленскім педінстытуце адкрылася і працуе кафедра беларусістыкі, якая рыхтуе спецыялістаў для беларускіх школак. Выдаецца газета «Наша ніва», па-беларуску выходзяць у эфір праграмы радыё і тэлебачання.

Па праграме Дзён культуры была адкрыта выстаўка суполкі беларускіх мастакоў «Пагоня». Дні культуры завяршыліся канцэртам мужчынскага хору «Унія».

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё выстаўкі суполкі беларускіх мастакоў «Пагоня» ў Вільні; на выстаўцы выступіў фальклорны гурт з Мінска «Ліцвіны».**

**Фота У. ПАНАДЫ.**





## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# ЦІ ВУНІЯТ-КАТОЛІК НЕ ЧАЛАВЕК?

Прачытаўшы ліст «Хацеў бы жыць у іншай рэчаіснасці» пяра Андрэя Гаўрылюка (мой добры знаёмы і сябар), я задумаўся: больш паловы ліста, згодна з маёй думкай, добра напісана, але вось нападкі на беларускіх вуніятаў-католікаў у незалежнай Беларусі варожыя для мяне і напэўна для многіх чытачоў «ГР», бо яны пахнуць сталінізмам і царскім шавінізмам. Па словах Андрэя Гаўрылюка, «трэба спыніць гэтае уніяцтва ва ўсёй Беларусі. А святарам трэба ўзяцца рукавы закасаўшы і выганяць камуністаў пад Маскву».

Вельмі дзіўна, што спадар Андрэй раўняе вуніятаў да камуністаў. Выходзіць, што сам Сталін не быў камуністам, калі так горача распраўляўся з вуніяцтвам (як ні з кім, бо католікі ў «правадыра ўсіх народаў» былі ворагамі нумар адзін) у бальшавіцкай Расіі і пераважна на Беларусі і Украіне. А як спыніць вуніяцтва на Беларусі? Хачу запытацца паважанага Гаўрылюка. Цар-бацюшка, а пасля Сталін са сваімі пэмагатымі знайшлі спосаб і месца — Сібір. Дык Андрэй, відаць, мае гэта на ўвазе. А ці ён ведае хоць, што многія верныя сыны Беларусі былі католікамі, напрыклад, Янка Купала, Кастусь Каліноўскі (каторага царская праваслаўная царква лічыла за разбойніка і бандыта, сам я асабіста чытаў аб гэтым у адной царскай кнізе), Тадэвуш Касцюшка ці нават сам Юзэф Пілсудскі і многія іншыя. Так, пры царскай Расіі бацюшкі вельмі «трудзіліся» і мелі закасаныя рукавы па самы локаць і кожны прагрэсіўны рух душылі ў самым зародку, а месцамі пражывання змагароў, хто змагаўся за свабоду і роднае слова, былі турмы і Сібір. І сёння, як бацюшкі супрацоўнічалі ў бальшавіцкай Расіі з НКУС, а пасля з КГБ (вядома не ўсе), то на Беларусі, а таксама ў нас, на Беласточчыне, ніхто не пачуў з іх вуснаў роднага беларускага слова ў пропаведзях і служэннях. А вуніяцкія бацюшкі мелі іншы погляд і не баяліся прамовіць да народа на беларускай ці ўкраінскай мове. Такая праўда! І думаю, што ў дэмакратычнай дзяржаве, да каторай імкнецца і незалежная Беларусь, кожны мае права выбраць сабе любую царкву і веру, а нават цалкам не верыць. Для прыкладу падам дасканалага і адданага беларуса — Георгія Валкавыцкага, былога галоўнага рэдактара «Нівы», які быў і застаўся камуністам. Але няхай многія пазайздросцяць яго любові да сваёй айчыны і народа. Бо ён быў і застаўся праўдзівым чалавекам, каторы нікому крыўды не прычыніў, а толькі рабіў дабро. Андрэй Гаўрылюк хоча больш ведаць аб беларускіх дзеячах, якія змагаліся і змагаюцца за суверэнную Беларусь, у тым ліку пра Зянона Пазьняка. Дык ён вельмі расчаруецца, калі даведаецца, да якой царквы належыць лідэр БНФ і герой Беларусі З. Пазьняк. Ёсць прымаўка: «Не гавары гоп, пакуль не пераскочыў». Гэта адносіцца да спадара А. Гаўрылюка і яму падобных.

Хочацца яшчэ прыгадаць і тое, што з-за геройства і лаяльнасці нашых бацюшкаў на Беласточчыне, нас бы ўсіх беларусаў камуністы загналі б у кабалу і ў калгасы. І цэрквы былі б пустыя. Але толькі дзякуючы непахіснай паставе католікаў і іх святароў, у Польшчы да гэтага не дайшло, і менавіта католікі ў нас разгрмілі камунізм на чале са сваімі святарамі. А камуністы і манархісты — родныя браты, бо супольна выступаюць у сваіх дэманстрацыях супраць урада Ельцына.

Ім яшчэ сніцца вялікая таталітарная Расія, і ім на нас, беларусаў, напляваць, бо для іх мы не народ.

Некалькі слоў іншага парадку. Цешуся вельмі, што газета «Голас Радзімы» штораз цікавейшая і багацейшая формай. Вельмі добра, што публікуеце на яе старонках творы эміграцыйных беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама публікацыі аб адданых змагарах нашай Айчыны, якія да нядаўна лічыліся «ворагамі» і «здраднікамі» свайго народа.

Але сталіністы і рознае смецце не паддаюцца і не спяць, і ім не даспадобы такія публікацыі. Яны атакуюць іх і стараюцца з праўды ўчыніць няпраўду і з белага стварыць чорнае. І гэта ў кожнай галіне нашай гаспадаркі; яны надта моцныя і сядзяць на найвышэйшых пасадах. І гэта яны ўстаўляюць палкі ў колы нашай гаспадаркі, і праз іх мы перажываем крызіс і гора. Для незалежнай Беларусі і ўсіх рэспублік былога СССР неабходна цалкавітая дэкамунізацыя. Гэта ёсць усіх камуністаў з цёмнай душою павыкідаць з усіх пасадаў. І няхай ціха сядзяць са сваімі «скромнымі» пенсіямі дома на печы. А такую Ніну Андрэеву рускія павінны выгнаць за мяжу, бо скора з яе камуністы зробяць свайго бога. Іншага выйсця я не бачу, каб канчаткова вырвацца з кіпцюроў таталітарызму і камунізму. Прашу надрукаваць гэты артыкул.

Дарагія спадары! Буду вельмі ўдзячны, калі прышляце мне свой каляндар: «Родны край. 1992 г.»

**Ваш Мікалай ПАНФІЛЮК.**

Польшча.

# РЭЛІГІЙНАЯ І ПАЛІТЫЧНАЯ АВАНТУРА НА ПАРОЗЕ БЕЛАРУСІ

Трэба распачаць з «Сярод начной цішы».

Газета «Голас Радзімы» паведаміла, што з нагоды каталіцкіх Каляд ксёндз Уладыслаў Завальнюк адслужыў службу ў Кафедральным касцёле ў польскай мове. «Голас Радзімы» зрабіў заўвагу — чаму ў польскай?

Закон аб дзяржаўнай беларускай мове адносіцца да беларускіх нацыянальных установаў, школаў, адміністрацыі калектываў, адміністрацыі фабрык, заводаў і г. д. Закон, не маючы «зубоў», не мае і сілы. Тыя, што выдалі закон, самі яго ігнаруюць ды карыстаюцца расейскай мовай. Беларускія праваслаўныя свяшчэннікі выкарыстоўваюць расейскую мову. Трэба даць прыклад самім ды ўжываць беларускую мову там, дзе яна павінна ўжывацца. Таму нам няма патрэбы звяртаць увагі нацыянальным меншасцям за ўжыванне іхняй мовы на вуліцах, у парках, рэстаранах, піўнушках, кафейнях, цягніках, аўтобусах і г. д. Гэтага не забараняецца ў Вялікабрытаніі, Францыі, Нямеччыне і другіх дэмакратычных дзяржавах. Тое, што польскія і савецка-камуністычныя акупацыйныя ўлады нішчылі нашу мову, культуру і ўсё тое, што нашае, беларускае, не павінна адбіцца на нацыянальных меншасцях, засяляючых нашу Беларусь.

Мяне не трывожыць тое, што палякі, як нацыянальная меншасць, карыстаючыся поўнай рэлігійнай свабодай, паспявалі сабе ў польскай мове «Всьруд ноцнэй цішы глос сен росходзі». Мяне трывожаць беларускія вуніяты, якія падтрымліваюцца польскімі католікамі, польскімі ксяндзамі; нягледзячы, што іх ёсць жменька, узяўшы разам, на Беларусі, са скуры вылазяць, каб зліквідаваць беларускую праваслаўную нацыянальную веру, а на яе месцы ўвесці вуніяцкую. Увядзенне гвалтоўным спосабам вуніі на Беларусі выкліча рэлігійную авантуру, падобную, як у Паўночнай Ірландыі, дзе льецца кроў паміж католікамі і пратэстантамі. Рэлігійная авантура выклікала палітычную авантуру, і ўрад Вялікабрытаніі не можа ўжо праз дваццаць гадоў знайсці мераў пагаднення. Мяне трывожаць лісты з Беларусі, у якіх паведамляюць, што з Польшчы ўжо прыбыло шмат польскіх ксяндзоў, якія пераважна затрымліваюцца ў Заходняй Беларусі ды арганізуюць польскія каталіцкія парафіі. Ведамая рэч, служба адпраўляецца ў польскай мове. Тым болей, што з Польшчы прыбываюць польскія настаўнікі, не валодаючыя беларускай мовай, закладаюць польскія школы, дзе беларускай мовы няма нават як прадмета. Відаць з усяго, што палякі выкарыстоўваюць палітычную слабасць урада Рэспублікі Беларусь, урада, які не ёсць выбраны воляй усяго беларускага народу, урада, які не цікавіцца нацыянальнымі справамі беларускага народа, таму палякі, як відаць з усяго, лічаць заходнюю Беларусь за свае даўнейшыя «Крэсы Всходне». Не дзіва, што беларускія праваслаўныя свяшчэннікі паведамляюць, што на 65 працэнтаў праваслаўных ёсць адна царква, а ў гэтай самай дзяльніцы на 10 працэнтаў католікаў чатыры касцёлы. Гэты лік павялічваецца з дня ўпадку камунізму ў СССР.

З «Нашага слова» даведаўся, што ў сярэдняй школе № 12 горада Каралеўца намеснік старшыні БНФ Ю. Хадыка прачытаў лекцыю на тэму «Вуніяцкае мастацтва». Не сказана, колькі прысутных слухала яго лекцыю і меншбольш колькі вуніятаў пражывае ў Каралеўцы. Вось жа зерне, закінутае ў Каралевец, не прынясе плёну міру і дабрабыту беларускаму народу, а толькі павялічыць рэлігійны закалот. Было б шмат лепей, каб Ю. Хадыка прачытаў лекцыю на тэму: «Палітыка БНФ у Садружнасці Незалежных Рэспублік былога СССР» ды болей дакладна выясніў, што гэта азначае «закрыць дзверы на Усход, а адчыніць на Захад», як гэта паўтарае З. Пазьняк і яго супрацоўнікі. Дзверы Рэспублікі Беларусь не могуць быць закрыты да нашых суседзяў. Зачыніць дзверы да нашага суседа — Расейскай Федэратыўнай Рэспублікі, а адкрыць да Польшчы — гэта будзе палітычная слепата і эканамічная недасведчанасць тых палітыкаў, якія пашыраюць пустагаловую прапаганду.

Каб не быць адзінокаму ў трывозе, што нашэсце вуніятаў і католікаў адбываецца сёння на праваслаўную Беларусь і на праваслаўныя народы сярэдняй і ўсходняй Еўропы, спашлюся на ангельскую ліберальную газэту «Guardian» за 5.2.92 г. У артыкуле «Ватыкан абвінавачваецца» яна падае, што грэка-праваслаўная царква заклікала Афіны парваць дыпламатычныя адносіны з Ватыканам, абвінавачваючы каталіцкі касцёл у пашырэнні сваёй экспансіі на традыцыйныя праваслаўныя дзяржавы Усходянй Еўропы пасля ўпадку савецкага камунізму. Расейская праваслаўная царква таксама абвінавачвае Ватыкан за велізарнае нашэсце яго місіянераў на тэрыторыі, заселеныя пераважна праваслаўным народам. Трэба дадаць, што місіянеры, пераважна вуніяты, вышкаленыя Ватыканам, навучаныя той мове рэспублікі, у якую яны прызначаюцца. Найболей такога нашэсця, якое падтрымліваецца беларусамі-калабарантамі Ватыкану, на Беларусь.

**С. ШЧЭРБА.**

Англія.

# ШТО Ж У ВАС АДБЫВАЕЦЦА?

У нас жыццё ідзе як заўсёды. Лёс чалавечы і краінаў складваецца не так, як нам хацелася б. Жыццё часцей за ўсё жорсткае і цяжкае. Я за ўсіх непакоюся: і за сваякоў, і за сяброў, і за нашу Радзіму — Беларусь. Усё нам вельмі дзіўна і незразумела. Многаму не можам даць веры адносна таго, што ў вас адбываецца. Што ж будзе далей, як будзеце жыць?

Дарога цяжкая, ды і гады бяруць сваё, але вельмі хочацца яшчэ прыехаць дадому. Мая ж маці яшчэ жывая, а яна зусім старэнькая. Хочацца з ёю пабачыцца. Набліжаецца лета, і неяк больш думаецца пра Радзіму. Гэта мусіць і чалавек, як птушка, шукае сваё гняздзечка. Будзем спадзявацца на лепшае. Мы перажылі такую вайну, і гэты крызіс таксама перажывём. Тут у Бельгіі мы непакоімся пра Радзіму, імкнёмся дапамагчы. Але ўсе старэем, рэдка збіраемся разам.

Вялікі дзякуй за вашу газету «Голас Радзімы».

Дзякуй за тое, што вы пра нас не забываеце.

З павагай і найлепшымі пажаданнямі.

**Вера САЗАНОВІЧ.**

Бельгія.

## АМАТАРЫ СПОРТУ І ЗАМЕЖНАГА ТУРЫЗМУ

# ВЕЛАПРАБЕГ ШКЛЯНІКА

Нядаўна ў рэдакцыю «Голасу Радзімы» завітаў Сцяпан Шклянік, жыхар вёскі Жарабковічы Ляхавіцкага раёна. Многа, з юнацкім запалам расказваў ён пра мэту свайго прыходу. У кароткіх перапынках паміж тлумачэннямі я даведаўся, што Сцяпан Іванавіч хоць і пенсіянер, але яшчэ выкладае фізкультуру ў сярэдняй школе. Ён шчаслівы бацька дзвюх дачок і дзядуля чатырох унукаў. У маладосці шмат займаўся веласіпедным спортам, што і вызначыла яго далейшую кар'еру; мае медаль ВДНГ за арганізацыю фізкультурнай работы ў школе.

Летась Сцяпан Шклянік удзельнічаў у велапрабегу пенсіянераў, які быў зладжаны Г. Красоўскім, 76-гадовым парыжанінам рускага паходжання, і які праходзіў па «гарачых кропках» Закаўказзя і краін Блізкага Усходу. Аднак у той групе велатурыстаў Сцяпан Іванавіч быў адзіны беларус. І сёння ён будуе планы з'яднаць паплечнікаў, аматараў веласіпеднага спорту і падарожжаў дзеля правядзення беларускага велапрабегу па замежжы. На яго штандарах — лозунгі высакародныя: распаведаць замежным жыхарам пра незалежную Беларусь, пра яе змаганне сам-насам з чарнобыльскай бядой, за дэмакратыю, гуманізм, правы чалавека, чысціню акружаючага асяроддзя не афіцыйна, а сродкамі народнай дыпламатыі, вопытам і розумам людзей, якія шмат чаго перажылі, шмат чым здольны падзяліцца. Арганізатар велапрабегу, энтузіяст спорту, Сцяпан Шклянік заклікае замежных суайчыннікаў, сваіх равеснікаў, аказаць дапамогу ў яго патрыятычных намерах і высакароднай акцыі і ўдзелам, і фінансамі. Для здзяйснення яго задумы, магчымасці ажыццявіць велапрабег патрэбна валюта, якую дзяржава і адпаведныя органы, адказныя за развіццё спорту, у сённяшнім катастрафічным становішчы выдзеліць не могуць. Сцяпан Іванавіч песціць надзею, што яго ідэя атрымае водгук і падтрымку сярод беларускай дыяспары.

Ахвяраванні ў валюце дасылаць на адрас:

**Беларусь, г. Мінск, Беларускае рэспубліканскае ўпраўленне Белспортзабеспячэння, 068070133/001, Белзнешэканомбанк, МФО 805153, велапрабег Шкляніка.**

А ўсе пісьмовыя прапановы і заяўкі дасылаць арганізатару:

**Беларусь, 225390, Брэсцкая вобласць, Ляхавіцкі раён, в. Жарабковічы, Шкляніку С. І.**

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

Іван САВЕРЧАНКА

# АСТАФЕЙ ВАЛОВІЧ

## ГІСТОРЫКА-БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС



Па-другое, абранне гаспадаром аднаго з прадстаўнікоў мясцовае шляхты пры існуючай канкурэнцыі і варожнечы між шляхецкімі родамі паставіла б гаспадарства на грань грамадзянскае вайны. Апроч таго, існавала псіхалагічная цяжкасць: манарх у свядомасці тагачаснага чалавека — гэта памазанік Боскі, а ягоная ўлада — ад самога Госпада. Да ўсяго іншага, і гэта можа быць самае галоўнае, Астафей Валовіч неверагодна баяўся абрання манарха з польскага народу. Ён цалкам падзяляў думку сваго сваяка, аршанскага старасты Філона Кміты*, які адносна польскіх кандыдатаў на вялікакняскі пасад пісаў падканцлеру наступнае: «Ино некоторые мовят: «Не дай Бог ляху быть! Вырежет Литву, а Русь поготову». Давно резать почали литвина. И тот, де, с прырожения натуры... просто, як овца: где их больш берет волк, там оне дольше за ним идут! Больши будет жычливышый народу польскому, нижели своему! Ово просто есмо як рыба в омутне: слепи, неведоми! Не ведаем, куды в сию есмо диру влезли!» (Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці, Мн., 1975. С. 87).

Усе пералічаныя акалічнасці якраз і вымушалі Валовіча адкінуць ідэю Пяста, нягледзячы на ўсю яе прывабнасць.

10 траўня 1575 года ў Сценжыцы за два дні да вызначанага тэрміну вяртання Генрыха адкрыўся сумесны беларуска-польскі Вальны Сойм. Паколькі французскі прынц не з'явіўся, Астафей Валовіч 17 траўня з чыстым сэрцам аб'явіў рашэнне шляхты Вялікага Княства — прыступіць да выбараў новага гаспадара.

Вялікакняскія ўраднікі спяшаліся. Далейшае прамаруджванне пагражала бядою, бо маскоўскія войскі пад камандаю Іванавага зяця Магнуса, брата дацкага караля, покуль працягваўся Сойм, авалодалі Пернаваю ды пагражалі захопам усіх Інфлянтаў. Да непамыслоты, што насоўвалася з усходу, дадаліся беспарадкі ўнутры гаспадарства.

Галоўнаю ўмоваю навядзення парадку ў дзяржаве магло быць толькі хутчэйшае абранне новага гаспадара. На Канвакацыйны Сойм, што склікаўся сёмага лістапада 1575 года ў Варшаве, Астафей Валовіч прыехаў разам з Мікалаем Станіслававічам Тальвошам, жамойцкім кашталянам, і нечакана для многіх выступіў не за кандыдатуру Эрнеста, якую прапаноўваў раней, а падтрымаў венгра Стафана Батуру.

Якія ж прычыны паўплывалі на рэзкую змену сімпатыяў падканцлера ў той момант? Валовіч меў надта сур'ёзныя падставы, каб не падтрымліваць аўстрыяка Эрнеста. Летам і восенню 1575 года ў Дзяржаўную Канцылярыю Вялікага Княства ад агентаў у Аўстрыі і Маскоўскай Русі паступілі звесткі аб патаемных планах уплывовых колаў гэтых дзяржаваў аб'ядноўца ды разам ваяваць беларускае гаспадарства, а пасля перамогі — падзяліць ягоныя землі паміж сабою. Валовічу ў час удалося раскрыць інтрыгу ворагаў. Найперш быў схоплены польскі купец Крыштаф Граеўскі, які вёз нейкія сумніцельныя паперы ў Маскву. Пасля допыту, які падканцлер праводзіў асабіста, падазрэнні пацвердзіліся, і Граеўскага пасадзілі ў Дзісненскую турму (Рябинин И. Показания польского шляхтича Криштофа Граевского о своей поездке в Москву 1574—1575 гг.) (Чтения в Имп. Общ. истории и древностей российских при Московском университете. 1905. Кн. 1. С. 1—16).

* Філон Кміта быў жанаты на Зоф'і Сапяжанцы, якая даводзілася сястрой Фядоры, жонкі Валовіча.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 13, 14.

Ва ўдзеле ў палітычнай інтрызе супроць Княства А. Валовіч западозрыў гэтаксама і прынца Даніла з Бухава, які ехаў у Маскву ў якасці пасла імператара Максімільяна II, а затым яго пераемніка Рудольфа II. Вядома, з прынцам паступіць так, як з Граеўскім, у Вялікім Княстве не маглі. Але, калі ён праязджаў праз Вільню, то яму ў «спадарожнікі» прызначылі Лаўрэнція Горскага, які пільна сачыў за кожным яго крокам і пра ўсё паведамляў у гаспадарскую Канцылярыю. (Начало и возвышение Московии, сочинение Даниила принца из Бухова. С лат. перевел И. А. Тихомиров). (Чтения в Имп. Общ. истории и др. российских при Московском университете. 1876. Кн. 3).

Якраз з-за стасункаў Габсбургаў з маскоўскім манархам Іванам IV Валовіч і іншыя радныя паны Вялікага Княства — Ян Хадкевіч, Ян Кішка, Ян Глябовіч, мінскі кашталян, Аляксандр Хадкевіч, гарадзенскі староста,— адверглі кандыдатуру аўстрыяка Эрнеста, а затым і эрцгерцага Фердыненда. На Галоўным З'ездзе шляхты ў красавіку 1576 года большасць выказалася за сяміградскага ваяводу Стафана Батуру, шырока вядомага сваім палкаводчым талентам.

Думка Валовіча перамагла, і наступны Галоўны З'езд Княства, што праходзіў у траўні—чэрвені 1576 года ў Мсцібогаве, адхіліў усе прапазіцыі імператарскага пасла Яна Кахціцкага і прыняў канчатковае рашэнне аб узвядзенні на вялікакняскі пасад С. Батуры.

С. Батура быў афіцыйна запрошаны на гаспадаранне ў Вялікае Княства. Новы манарх, даючы 29 чэрвеня 1576 года прысягу, браў на сябе абавязак неадкладна выканаць шэраг важнейшых умоваў, выказаных яму, а астатнія абяцаў разгледзець на бліжэйшым Вальным Сойме.

Княжанне С. Батуры азнаменавалася крутым узвышэннем беларускага гаспадарства, эканамічным умацаваннем Княства ды пераможным завяршэннем шматгадовай Полацка-Інфлянцкай вайны. Літаральна праз некалькі дзён пасля прыняцця прысягі С. Батура выдаў радным панам, шляхце і рыцарству Княства Прывілей (васьмага ліпеня 1576 года), у якім пацвердзіў захаванне ўсіх іх правоў і свабод. (Акты, относящиеся к истории Западной России. Спб., 1848. Т. 3. С. 190). З першых дзён свайго гаспадарання ён без усялякіх ваганняў пайшоў насустрач патрабаванням шляхты Вялікага Княства і прызнаў, што ягоная манархія — Рэч Паспалітая — гэта не унітарная краіна, а канфедэрацыя дзвюх раўнапраўных дзяржаваў.

Першымі Прывілеямі Батура адмяніў рашэнні Люблінскага Сойму 1569 года, што прыніжалі годнасць беларускага гаспадарства, і падкрэсліў яго поўную незалежнасць ад Польшчы. Манарх дазволіў Вялікаму Княству праводзіць свае Вальныя Соймы і соймікі, а таксама чыніць судовыя справы ў адпаведнасці са сваім Статутам. Апроч таго, ён даў загад стварыць камісію па ўдакладненні дзяржаўных межаў між Каронаю і Княствам.

Новы кароль і вялікі князь хутка авалодаў прыёмамі кіравання дзвюма краінамі — Польшчаю і Вялікім Княствам, чаму, відаць, паспрыяла ягонае знаёмства з манархіяй Габсбургаў, якая ўяўляла саюз некалькіх дзяржаваў.

Астафей Валовіч быў усцешаны С. Батурам, бо той, па сведчанні аўтара старажытнай Баркулабаўскай хронікі, «быў сапраўды чалавек побажны, рыцарскі, вайсковы, шчаслівы, праўдзівы, сумленны». (Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 175).

С. Батура з разуменнем паставіўся да прапановы падканцлера перагледзець шэраг артыкулаў Статута Вялікага Княства, якія былі гвалтоўна зменены Люблінскім Соймам 1569. Сапраўды, як і паабяцаў манарх, бліжэйшы Вальны Сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўраднікамі Княства «статутавыя паправы», а Астафей Валовіч загадаў служачым Дзяржаўнае Канцылярыі размножыць іх ды тэрмінова разаслаць па ўсіх ваяводствах. Такім чынам, вельмі важныя нормы дзяржаўнага і судова-працэсуальнага права, адмененыя ў 1569 годзе, былі вернуты ў Статут Вялікага Княства.

У першыя гады княжання С. Батуры Астафей Валовіч, як прыхільнік ягонага палкаводчага таленту, вельмі шмат дапамагаў манарху ў высакароднай справе — вызваленні абшараў Княства ды Інфлянтаў ад Маскоўшчыны. Падканцлер на справе ажыццяўляў распараджэнні вялікага князя, важнейшыя сярод якіх былі: аб падрыхтоўцы да вайны з маскоўскім царом (25 ліпеня 1576), аб зборы грашовага падатку для ўмацавання прыгранічных замкаў (жнівень 1576), аб гатоўнасці шляхты да паспалітага рушання супроць маскоўцаў (31 жніўня 1576), аб зборы рыцарства і грошай на вайну з крымскім ханам і маскоўскім царом (першага траўня 1577), аб палалоўным узбраенні насельнікаў Княства для абароны Інфлянтаў (14 жніўня 1577) ды шэраг іншых.

На З'ездах Вялікага Княства і агульных беларуска-польскіх Соймах Валовіч амаль заўжды станавіўся на бок Батуры. Прыкладам таму могуць служыць падзеі вельмі важнага Вальнага Сойму 1578 года, які разглядаў пытанні падрыхтоўкі да шырокай кампаніі па вызваленні паўночна-ўсходніх земляў Беларусі. Падканцлер падтрымаў просьбу гаспадара аб выдзяленні на вайсковыя патрэбы дадатковых сродкаў.

Стасункі Астафея Валовіча з вялікім князем безумоўна не былі ва ўсе часы бездакорнымі. Першы сур'ёзны канфлікт між імі ўзнік ужо на першым годзе гаспадарання Батуры, на Торуньскім Вальным Сойме (пачаўся чацвёртага кастрычніка 1576 года). С. Батура хацеў атрымаць сродкі і склікаць паспалітае рушанне для паходу на Гданьск — адзіны горад з усяе Прусіі, што не прысягнуў яму. Але беларускія паны-рада выступілі з «Пратэстацыяй» і адмовіліся ўдзельнічаць у заваяванні Гданьска. Свой адказ яны растлумачылі нежаданнем пускаць на землі Княства польскае рыцарства, якое заўжды траплялася на Беларусь, пачынала нялітасна рабаваць шляхецкія маёнткі. Валовіч таксама спасылаўся на ўсячасную небяспеку ад маскоўскіх войскаў.

С. Батура настойваў. 14 чэрвеня 1577 года ён накіраваў беларускаму ўраду Граматы, загадваючы неадкладна паслаць вялікакняскае войска пад Гданьск, каб прывесці, як ён пісаў, «людей своевольных и упорных кгданьщан до подданства нашего и до послушенства Речи Посполитой». (Акты, относящиеся к истории Западной России. Спб., 1848. Т. 3. С. 210). Але Ваўкавыскі З'езд шляхты Вялікага Княства 17 ліпеня 1577 года зноўку пацвердзіў ранейшую заяву — не ўдзельнічаць у паспалітым рушанні на Гданьск, а выдаткаваныя грошы накіроўваў выключна на справы вызвалення Беларусі ад Маскоўшчыны. Цяжка адназначна сказаць, на чыім баку была праўда падчас гэтага канфлікту. Скончыўся ён тым, што настойлівы і ўладалюбівы С. Батура, нягледзячы на пратэсты Вялікага Княства, усё ж такі арганізаваў паход на Гданьск і пакарыў яго.

Астафей Валовіч не знайшоў агульнае мовы з вялікім князем і ў 1578—1579 гадах, калі ордэн Ісуса займаўся стварэннем каталіцкай акадэміі ў Вільні. Падканцлер і канцлер Мікалай Радзівіл Руды, з'яўляючыся пратэстантамі па веравызнанні, адмовіліся зацвярджаць каралеўскі Прывілей на адкрыццё акадэміі. Канфлікт з каралём і вялікім князем цягнуўся даволі доўга, але Валовіч, зразумеўшы ўсю прававую неабгрунтаванасць сваёй пазіцыі, саступіў, і ў 1579 годзе першая вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі распачала шырокую асветніцкую дзейнасць. Здаецца, падобная гісторыя паўтарылася і ў 1581 годзе, пры заснаванні Полацкага езуіцкага калегіума.

Абапіраючыся на згаданыя факты выступленняў Валовіча супроць адкрыцця каталіцкіх навучальных установаў, некаторыя пазнейшыя гісторыкі сцвярджалі, што падканцлер нібыта наогул быў праціўнікам адукацыі і асветы. Гэта зусім не так. Валовіч у даным выпадку бараніў свае канфесійныя інтарэсы ды не хацеў саступаць першынства католікам. Справа ў тым, што ля таго ж часу беларускія пратэстанты рыхтаваліся да адкрыцця сваёй вышэйшай навучальнай установы, між іншым, мяркуючы весці ў ёй выкладанне не на польскай, а на беларускай мове. Развіццю культуры, асветы і адукацыі на народнай мове павінен быў служыць і пераклад Евангелля, часткова ажыццёўлены ў 70—80-я гады Васілём Цяпінскім.

Канфлікты Астафея Валовіча з вялікім князем і каралём ніколькі не перашкодзілі падканцлеру ў 1576 годзе дастаць Рэчыцкае старасця, а першага кастрычніка 1576 года — Віленскае кашталянства. У 1579 годзе Валовіч заняў таксама пасаду канцлера, якую трымаў да 1584 года. Троцкае кашталянства і падканцлерства у тым жа 1579 годзе ён саступіў Крыштафу Радзівілу Перуну.

У 1579—1582 гадах, на якія прыйшоўся заключны этап Полацка-Інфлянцкай вайны, Астафей Валовіч удзельнічаў у трох буйнейшых вайсковых кампаніях: вызваленні Полацка (1579), узяцці Вялікіх Лук (1580) ды паходзе ў 1581 годзе пад Пскоў. (Новодворский В. Борьба за Ливонию между Москвою и Речью Посполитою (1570 — 1582). Спб., 1904).

Пад Полацкам Валовіч асабіста камандаваў харугваю, што штурмавала гарадскія сцены. У многім дзякуючы ягонай мужнасці ды самаахвярнасці князя Збаражскага, старажытны беларускі горад быў вызвалены ад ворага.

Знаходзячыся ў войску, Астафей Валовіч ужо ў якасці канцлера працягваў займацца дыпламатыяй. Ён прымаў пасольствы, ажыццяўляў шырокую дзяржаўную перапіску, аналізаваў палітычныя працэсы, што працякалі ў краінах Заходняй Эўропы ды суседняй Маскоўскай Русі. Шматлікія матэрыялы дыпламатычнай дзейнасці Валовіча ў часы княжання С. Батуры захаваліся ў канцылярскіх кнігах Метрыкі Вялікага Княства, частка якіх друкавалася ў надзвычай каштоўным навуковым выданні мінулага стагоддзя: «Книга посольская Метрики Великого Княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Стефана Батория. С 1576 по 1580 год (М., 1843).

Па ўзяцці Вялікіх Лук у 1580 годзе канцлер вёў адказныя перамовіны з пасламі Івана IV — князем Сіцкім і Півовым, якія прыехалі прасіць міру. У адрозненне ад ранейшых часоў, калі Валовічу даводзілася прыніжацца ды цярпець зняваргі з боку маскоўцаў, цяпер ён дыктаваў ім свае ўмовы, ультыматыўна патрабуючы вяртання Княству ўсіх Інфлянтаў ды Смаленска, а гэтаксама — Пскова і Ноўгарада. Трэба адзначыць, што пералом ва ўсходняй дыпламатычнай стратэгіі Астафея Валовіча адбыўся крыху раней, прыкладна ў 1578 годзе, калі ён, чарговы раз прымаючы Іванавых паслоў, упершыню адкрыта абурыўся агрэсіўнай палітыкай маскоўскага манарха ды нахабнымі паводзінамі ягоных памагатых. «Прыйшлі вы не са звычаем да звычаю,— гаварыў тады Валовіч паслам.— Вашых загадаў тут слухацца не будуць. Як вам скажуць, так і чыніце. Калі ў вас ёсць справа, то ідзіце да гаспадара, цалуйце яму руку ды праўце пасольства». (Соловьев С. М. История России с древнейших времен. М., 1960. Кн. 3. Т. 5—6. С. 649).

У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў Астафей Валовіч далучыў да дзяржаўных справаў адукаванага маладога чалавека Льва Сапегу, што мела велізарнае значэнне для будучыні Беларусі. Канцлер паўплываў на станаўленне яго асобы і дзяржаўна-палітычных поглядаў.

У 1581 годзе Валовіч і Сапега сумеснымі намаганнямі дабіліся ўтварэння Трыбуналу — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага Княства ды падрыхтавалі юрыдычныя нормы, што рэгулявалі яго дзейнасць.

Святую справу абароны Бацькаўшчыны, чаму Астафей Валовіч прысвяціў усё сваё жыццё, паспяхова прадоўжыў яго духоўны пераемнік Леў Сапега.

СЛОВА ПРА ЯДВІГІНА Ш.

# ВЕЧНА ТВОРЧЫ І ПЛОДНЫ

*Дайно было гэта...*
*Хадзіць чуткі сталі —*
*Аб Вялікай Волі*
*Усе заталкавалі...*

(«Дзед Завала»).

Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Але пэўна не кожнаму вядома, што 24 лютага 1992 года мінула 70 год, як памёр Антон Лявіцкі, беларускі пісьменнік, які друкаваў свае творы пад псеўданімам Ядвігін Ш.

Прыйшоў ён на свет у 1866 годзе, праз два гады пасля таго, як скончыў сваё жыццё на вісельні ў Вільні слаўны сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі за волю і долю нашага краю. Пачалася тады бязлітасная, безаглядная рэакцыя. Запанавала магутная, жорсткая сіла над воляй народаў нашага краю. У гэтай атмасферы, атмасферы ўціску кожнай праявы вольнага жыцця рос, вучыўся, развіваўся і працаваў Ядвігін Ш. Здавалася, што і ён павінен праняцца гэтым нявольніцкім духам, стаць паслухмяным нявольнікам царскага жандарскага рэжыму. Але гэтага з ім не сталася. Тыя ідэалы, за якія аддаў сваё жыццё Каліноўскі, шырока, глыбока і далёка пайшлі ў народ і там жылі, будзілі яго надзею на перамогу над няволяй. Гэтыя ідэалы ўзбагацілі душу Ядвігіна Ш. і далі яму магчымасць стаць у рады першых беларускіх адраджэнцаў, стацца адным з першых беларускіх пісьменнікаў.

Жыла сям'я Лявіцкіх на Міншчыне, у двары Карпілаўка пад Радашковічамі. Лявіцкія сябравалі з Вінцуком Дуніным-Марцінкевічам, які жыў недалёка. Чытаць і пісаць Антона вучыла дачка Дуніна-Марцінкевіча.

Гэта аказала значны ўплыў на станаўленне асобы будучага пісьменніка. Антон Лявіцкі паспяхова скончыў Менскую гімназію і паступіў у Маскоўскі універсітэт. Там у пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя пачалося ўжо гуртаванне беларускай моладзі, захопленай расійскім народніцкім рухам. Там беларускія дэмакраты пачалі выкоўваць свой новы — нацыянальны светапогляд, каторы да расейскага клічу «ідзіце ў народ!» дадаваў «у свой народ». Лявіцкі прымае актыўны ўдзел у выступленнях студэнтаў, за што будзе выключаны з універсітэта і трапіць у турму. Менавіта тут у 1891 годзе ён перакладае на беларускую мову апавяданне Усевалада Гаршына «Сігнал». З гэтага часу пачынаецца творчая праца Антона Лявіцкага. У 1893 годзе ён піша драму «Злодзей», якую збіраліся паставіць на сцэне ў Радашковічах акалічныя паны на чале з земскім начальнікам, пад той час даволі дэмакратычна настроеным абшарнікам Андрэем Сніткам і вядомым беларускім дзеячам Аляксандрам Уласавым. Але паставіць драму не здолелі, бо «на белорусском наречии» губернатар іграць забараніў. Пасля «Злодзея» Лявіцкі замаўкае на доўгі час.

Яго будзіць да творчае працы магутны адраджэнскі рух 1905 — 1906 гадоў, ля вытокаў якога стаялі браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Фелікс Стацкевіч, Цётка, Алесь Бурбіс і Аляксандр Уласаў. Дзякуючы блізкім сяброўскім адносінам з А. Уласавым, Лявіцкі падключаецца да беларускага нацыянальнага руху, аддаючы ўсе свае сілы барацьбе за незалежнасць беларускага народа. У 1906 годзе ў трэцім нумары газеты «Наша доля» выходзіць апавяданне Ядвігіна Ш. «Суд».

Дзесьці ў гэты час адбываецца знаёмства ў Карпілаўцы Антона Лявіцкага з Іванам Луцэвічам. Яно аказала значны ўплыў на Янку Купалу. «Гэта была для мяне вялікая падзея, так як я ўпершыню сустрэўся з чалавекам, які не толькі пісьменнік, якога друкуюць, але і піша па-беларуску. З Ядвігіным Ш. я вельмі зблізіўся. Ён мне многа расказваў пра невядомыя мне да таго часу пісьменніцкія справы», — пісаў пра гэта Янка Купала ў лісце Л. Клейнбарту. Як адзначае дачка Ядвігіна Ш. Ванда Лявіцкая-Лёсік, бацька заахвочваў Купалу пісаць на беларускай мове. На працягу 1908 — 1909 гадоў яны разам працавалі ў рэдакцыі «Нашай нівы». У 1908 годзе Ядвігін Ш. адным з першых піша водгук на зборнік Янкі Купалы «Жалейка».

У 1909 годзе па запрашэнню Аляксандра Уласава Лявіцкі перабіраецца з Карпілаўкі ў Вільню для працы ў рэдакцыі часопіса «Саха». У 1909 годзе Ядвігін Ш. піша невялікую паэмку «Дзед Завала». Ідэі Вялікай Волі для народа, выказаныя пісьменнікам у гэтым творы, былі пранесены ім праз усё жыццё.

У прыгожым вершыку ў прозе, ахвяраваным памяці паэта Сяргея Палуяна, гаворыць пісьменнік аб ранах. Найвялікшы боль адчуваецца ад ранаў на душы, гаворыць ён, бо глыбока і балюча працята нядоляй беларускай яго душа. Нядоля народа і вялікая любоў да яго адбіваюцца ў лепшых творах А. Лявіцкага. Таму апавяданні «Гаротная», «Бярозка», «Зарабляюць» такія сардэчныя, лёгкія і шчырыя.

Трэба адзначыць, што пачаткі беларускай навелы вяжуцца з творчасцю Ядвігіна Ш., які ў сваіх зборніках «Бярозка» (1912 год) і «Васількі» (1914) даў некалькі дзесяткаў мастацкіх апавяданняў.

Добры баечнік, Лявіцкі пакінуў нам цыкл казак-алегорыяў: «Рабы», «Вучоны бык», «Што сказаў певень», «Чортава ласка», у якіх паказаў нам каштоўныя скарбы беларускага гумару і асвяжыў заняпалую на той час галіну творчасці.

Ядвігін Ш. заўсёды будзе займаць у беларускай літаратуры адно з пачэсных месцаў як мастак слова, які здолеў адчуць і выявіць у прозе дух беларускага народа і беларускай прыроды.

«Як паводка веснавая, імкнецца ён пераможна па шляху сваім. Вечна ён жывы, вечна неспакойны, вечна творчы і плодны». Гэтыя словы, сказаныя Адамам Станкевічам другога лістапада 1937 года пры адкрыцці помніка Антону Лявіцкаму на віленскіх могілках Роса, вельмі трапна характарызуюць жыццёвы і творчы шлях Ядвігіна Ш.

**Валянцін МАЗЕЎ.**



У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы адбылася прэм'ера камедыі «Курыца» маладога драматурга Мікалая Каляды. Спектакль паставіў рэжысёр Мікалай Пінігін. Слёзы, смех, каханне — усё гэта ёсць у новай рабоце купалаўцаў.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

Фота У. ШУБЫ.

ПРАЗ ПРЫЗМУ ЧАСУ

# СЯМІГАДОВЫ ШЛЯХ ІНБЕЛКУЛЬТА Ў НІКУДЫ І ДА НАШЫХ СЭРЦАЎ

Нешта прыцягальнае ў гэтай назве Інбелкульт (Інстытут беларускай культуры). Прамовіш колькі разоў, і, як ад малітвы, — палёгка. Можа таму, што гэта назва першай вышэйшай навуковай установы беларусаў, якая змагла за сямігоддзе (1922—1928) свайго існавання ператварыцца ў крыніцу нашай духоўнасці. У рэшце рэшт інстытут быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук. Але чаму для гэтага спатрэбілася цэлых сем гадоў? І чаму Інбелкульт, а не акадэмія адразу, як на Украіне ці ў Расіі?

Мы так прывыклі ўсё тлумачыць эканамічнымі цяжкасцямі. Сапраўды, яны былі на Беларусі і немалыя. Войны давялі беларускі народ да голаду і галечы. Каля паловы былых царскіх школ пазакрываліся. На Украіне было не лепей, ды яна абвясціла аб адкрыцці сваёй Акадэміі навук 31 снежня 1918 года. Дэкласаванне не патрабуе эканамічных выдаткаў. Значыць, прычына ў іншым.

Можа Інбелкульт — гэта адбітак пошукаў нацыянальных форм арганізацыі навукі? І сапраўды, ён нараджаўся ў доўгіх муках. Пасля адступлення белапалякаў ацалелая беларуская інтэлігенцыя кінулася пашыраць нацыянальныя школы і ўзнаўляць культуру. Для каардынацыі яе дзейснасці 1 жніўня 1920 года пры Народным камісарыяце асветы рэспублікі быў створаны Беларускі аддзел. Нацыянальна свядомая інтэлігенцыя сталіцы гуртавалася непасрэдна вакол Наркамата асветы на чале з У. Ігнатоўскім. 27 студзеня 1921 года мінскія навукоўцы і асветнікі сабраліся ў былым мужчынскім духоўным вучылішчы, якое займаў камісарыят, для абмеркавання пытанняў культурнага будаўніцтва. Намеснік камісара асветы С. Некрашэвіч зрабіў даклад і, між іншым, прапанаваў стварыць Інстытут беларускай культуры. Аб тым жа гутарка ішла і на другой лютаўскай сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР.

Пакуль працягвалася падрыхтоўчая праца, Наркамат асветы выдзеліў са свайго складу Навукова-літаратурны аддзел (7 лютага), а пры ім — Тэрміналагічную камісію (10 лютага) для распрацоўкі беларускай навуковай тэрміналогіі. У чэрвені 1921 года Навукова-літаратурны аддзел рэарганізаваўся ў Акадэмічны цэнтр. Ён аб'ядноўваў усе навукова-асветныя ўстановы горада, у тым ліку і Тэрміналагічную камісію. Але, што цікава, побач з ёю ў спісе ўстаноў Акадэмцэнтра значыўся Інбелкульт, створаны 9 ліпеня на чале з яго сакратаром С. Шпакавым. Фактычна гэта быў, як мы зараз кажам, часовы творчы калектыў, які рыхтаваў умовы для аб'яднання ўсіх беларускіх навуковых сіл. Але ў Інбелкульт ці Акадэмію навук? Здавалася б, ад Акадэмцэнтра да акадэміі — адзін крок. Ды ў 1921 годзе на мясцовых культурнікаў абрушылася хваля арыштаў, якія вяліся пад прыкрыццём барацьбы з беларускімі эсэрамі. Зразумела, што ў такіх умовах нацыянальная акадэмія адкрыцца не магла.

Больш таго, нават вакол Інбелкульта ўзнікла валтузня. Прамаскоўская групоўка ва ўрадавых колах рэспублікі імкнулася падпарадкаваць яго БДУ. Але там складваўся рускамоўны асяродак. Да таго ж савецкія універсітэты не мелі права на самакіраванне. Усё гэта ніяк не спрыяла б развіццю беларускай навукі. А таму нацыянальна свядомыя дзеячы зрабілі ўсё, каб Інбелкульт пакінулі пры Наркамаце асветы.

30 студзеня 1922 года часовы калектыў новай установы злучыўся з Тэрміналагічнай камісіяй. На 20 лютага было назначана ўрачыстае адкрыццё. Ды як бы знарок, на той дзень адказныя працаўнікі рэспублікі, у тым ліку і У. Ігнатоўскі, мелі выклік у Маскву, іншыя раз'ехаліся па паветах. Створаны Інбелкульт не стаў самастойнай навуковай установай. Фактычна ён замяніў ліквідаваны 10 красавіка 1922 года Беларускі аддзел Наркамата асветы. Арганізацыйная неакрэсленасць Інбелкульта шкодзіла паспяховай працы беларускіх навукоўцаў. І сёлетні яго 70-гадовы юбілей не дае падстаў для асаблівай радасці.

Статут Інбелкульта зацвердзілі толькі 25 ліпеня 1924 года, пасля таго як кіраўніцтва рэспублікі ўзяло курс на беларусізацыю і пачалося ўзбуйненне БССР. Толькі тады Інбелкульт ператварыўся ў афіцыйную вышэйшую навуковую ўстанову беларускай дзяржавы.

Аднак вучоныя Беларусі імкнуліся да іншага — мець сваю нацыянальную Акадэмію навук. Пра гэта старшыня Інбелкульта У. Ігнатоўскі ўпершыню афіцыйна выказаўся ў лістападзе 1924 года на трэцяй сесіі ЦВК БССР. Вось чаму інбелкультаўцаў не вельмі задавольваў і спецыяльна адведзены для іх звычайны будынак для жытла на Рэвалюцыйнай, 21. Яны пазіралі ў бок былога духоўнага жаночага вучылішча, дзе тады месціўся медфак БДУ, а зараз там, на беразе Свіслачы, стаіць гмах Беларускай ваеннай акругі.

Значыць, пошук нацыянальных форм арганізацыі беларускай навукі меў месца. Але з 1924 года будучыня гэтай навукі пачала настойліва звязвацца з традыцыйнай акадэмічнай формай. Невядома, каб хто-небудзь бараніў захаванне Інбелкульта. Ён лічыўся часовай мерай, як і тэрытарыяльны грабеж Беларусі, а акадэмія — сімвалам незалежнай дзяржавы.

І нарэшце такое дапушчэнне. Ці не звязаны феномен Інбелкульта з палітычнымі гульнямі камуністычнага кіраўніцтва Масквы? Але мяркуйце самі. Навука на Беларусі трымалася ў «чорным целе». У 1928 годзе на яе трацілася 0,55 працэнта дзяржаўнага каштарыса, у той час як у цэлым па СССР — 1,12 працэнта. Інбелкульт фактычна ўвесь час знаходзіўся на галодным утрыманні. Камісія па скарачэнню штатаў ужо ў 1922 годзе бязлітасна паставілася да новай установы і пакінула ўсяго 13 супрацоўнікаў (Яўхім Карскі, Янка Купала, Якуб Колас, Язэп Лёсік, Змітрок Бядуля, іншыя). Смешна сказаць,

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# МЫ ТОЛЬКІ НА ШЛЯХУ ДА СВАБОДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат.**

— Першае, на што мы павінны звярнуць увагу, — гэта на нашы архівы. Нам, як паветра, патрэбны нацыянальны гістарычны архіў. Але што адбываецца? Заключаецца нейкае пагадненне, згодна з якім партархіў не перадаецца ва ўласнасць нацыянальнаму архіву. Падаплёка тут такая: разбазарыць унікальныя партыйныя фонды, а частку, магчыма, і проста знішчыць. Я валодаю інфармацыяй, што некаторыя персанальныя справы былых сакратароў ЦК ужо вывезены ў невядомым кірунку. Больш таго, няясны лёс фондаў архіваў КДБ.

Нядаўна ў Менску па ініцыятыве Беларусі было падпісана вельмі важнае пагадненне аб вяртанні гістарычных каштоўнасцяў з былых саюзных музеяў. Падпісаў яго і Ельцын. Аднак расейскі парламент заблакіраваў гэта рашэнне. Нашай прэсе трэба прапагандаваць усе гэтыя каштоўнасці, пісаць пра іх.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ, народны дэпутат.**

— Я вымушаны падкрэсліць, што ніякія пытанні гісторыі, нацыянальнай свядомасці, выкладання і гэтак далей не будуць вырашаны, пакуль не будуць нацыянальнымі ўрад і вышэйшы орган заканадаўчай улады. А што такога няма, відавочна. Старшыня Савета Міністраў дагэтуль не можа выказацца на дзяржаўнай мове.

Другое: нам прасіцца ў Еўропу не трэба, нам трэба туды вяртацца. Суверэнітэт з'явіўся ў нас не ў мінулым годзе, а ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Нам трэба толькі вярнуцца да таго, што было.

**Аляксандр КУЛЕШ, падпалкоўнік, прадстаўнік Беларускага згуртавання вайскоўцаў.**

— Уся праца па напісанні нашай сапраўднай гісторыі мае вялікае значэнне для адраджэння Беларусі, для стварэння беларускага войска. Да нас прыходзяць служыць маладыя людзі, якія ў школе не атрымалі адпаведных ведаў па гісторыі сваёй дзяржавы, ваеннай гісторыі, таму мы мусім даць ім неабходную інфармацыю. Я асабіста меў кансультацыі з нашымі гісторыкамі наконт таго, як нам наладзіць вучобу ў войску, па гісторыка-патрыятычнаму выхаванню. Тыя рэкамендацыі, што былі распрацаваны ў маскоўскіх кабінетах Міністэрства абароны, нас не задавальняюць. Мы павінны стварыць сёння нейкі грамадскі цэнтр, які дапамог бы прадставіць нам такія матэрыялы. Я думаю, што і ў далейшым, калі ўтворыцца Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, нашай грамадскасці трэба будзе пастаянна ўзаемадзейнічаць з вайсковымі структурамі. Гэтага патрабуе час і справа нашай незалежнасці.

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

— Тэма ваеннай гісторыі заслугоўвае асобнай гутаркі. Цяперашняе становішча нашае — гэта лёс кожнага забранага краю, паколькі заўсёды пасля панавання ў дзяржаве наступае агрэсія ў гісторыю. Навука гістарычная, якая ў нас ёсць, фактычна чужая, не адпаведная, не нацыянальная.

Ваенную гісторыю як навуку мы павінны ставіць на адно з найбольш важных месцаў. Патрэба трайная. Чыста пазнавальная, па-першае. Няможна далей даследаваць гісторыю Беларусі, ігнаруючы фактар ваенны, уздзеянне войнаў, бо, па папярэдніх падліках, у адным XVI стагоддзі 40 гадоў выпала на войны, у XVIII — у цэлым Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай каля 65 гадоў так ці інакш уключана была ў войны. Я не кажу пра вынікі, як гэтыя войны ўздзейнічалі на чалавека... Далей патрэба грамадская, нацыянальная. Калі гісторыя ёсць школаю жыцця, то гісторыя як навука мацуе тоеснасць нацыі, веды пра герагічную барацьбу супраць чужаземных захопнікаў, веды пра нацыянальна-вызваленчае змаганне абуджаюць свядомасць, мацуюць ідэю незалежнасці. Трэцяя патрэба чыста палітычная. Не можа быць войска без ведаў пра сваё мінулае, традыцыю вайсковую.

**Вінцук ВЯЧОРКА.**

— Беларускай школай і дагэтуль называлася што хочаце, толькі не беларуская школа. Я маю на ўвазе ўсю сістэму адукацыі — ад дашкольнай да вышэйшай. Беларускай школай у нас называлася савецкая з выкладаннем некаторых прадметаў на беларускай мове. І толькі цяпер мы пачынаем разумець, што нам трэба перабудоўваць, даруйце гэты тэрмін, літаральна ўсё. Калі мець на ўвазе прадметы прыродазнаўчыя, то і яны могуць быць нацыянальнымі... Нават дакладныя навукі могуць быць нацыянальнымі і падавацца нацыянальна. Што ўжо казаць пра навукі гуманітарнага цыкла? Цешыць тое, што пачаліся пошукі канцэпцыі, у прыватнасці, пошукі канцэпцыі гістарычнай адукацыі. Але на сённяшні дзень адзіны рэальны вынік пошукаў такой канцэпцыі — гэта канцэпцыя, якая з'явілася ў выніку работы супрацоўнікаў педінстытута і навукоўцаў, якія прадстаўляюць Інстытут гісторыі АН. Яна існавала ў выглядзе брашуры, распаўсюджвалася ў міністэрстве, а праз некалькі месяцаў была надрукавана ў «Настаўніцкай газеце».

Для тых, хто незнаёмы з ёй, коратка нагадаю, у чым яе сэнс. Увага на тое, што прыярытэты павінны быць нацыянальнымі. Здзівіла, што прапанавана ў старэйшых класах гісторыю Беларусі не выкладаць, а ўключаць яе ў кантэкст гісторыі Расеі і славянскіх народаў... Па меншай меры гэта дзіўна і вымушае нас рэзка паставіць пытанне: а якой павінна быць канцэпцыя гістарычнай адукацыі ў нашай беларускай школе — сярэдняй і вышэйшай?! Неабходна пашырэнне культурнага абсягу нашай адукацыі і нашага мыслення, пашырэння яго на ўвесь сусвет. У гэтым выпадку мы нашымі ўласнымі вачыма, з нашага беларускага цэнтра — Сусвету глядзім на усё астатняе. Мы ў выніку перастаём камплексаваць, успрымаем сябе народам.

**Юрый ХАДЫКА, доктар фізіка-матэматычных навук.**

Я лічу, што тая схема канцэпцыі, якую намаляваў спадар Вячорка, цалкам слушная, але канцэпцыя ў гісторыі, як і ў навуцы, можа быць толькі адна — не бывае дзвюх праўдаў. І толькі з праўдаю бліскучых і небліскучых старонак нашай гісторыі мы можам выхаваць нармальнага патрыёта і грамадзяніна. Не трэба браць прыкладу ні з расейскай канцэпцыі, ні з польскай, а зыходзіць толькі з праўды. Хацелася б звярнуцца да тых, хто будзе займацца вывучэннем духоўнай культуры беларусаў, быць вельмі талерантнымі.

**Міхась ТКАЧОЎ.**

— Хацеў бы нагадаць яшчэ адну праблему, якая стаіць перад гісторыкамі. Гэта неабходнасць паказаць гісторыю тых народаў, якія жывуць на нашай зямлі: яўрэяў, татараў, цыганоў, маскалёў і іншых народаў. Яны пакінулі след у матэрыяльнай і духоўнай культуры, у нашай гісторыі. Распрацоўваючы гісторыю нашай зямлі, мы павінны звярнуць на гэта ўвагу.

**Валянцін ГОЛУБЕЎ.**

— У нас зусім не распрацавана канфесійная гісторыя. Развіццё і ўмацаванне іншых дзяржаваў паказала, што заўсёды рэлігійнае пытанне стаіць побач з умацаваннем дзяржавы. Толькі адна дзяржава, гэта былы СССР, грунтавалася на іншай — антырэлігійнай ідэалогіі. Заўсёды ж у гісторыі рэлігія была тое ж самае, што і ідэалогія. Неабходна распрацоўваць пытанні канфесій, улічваючы гісторыю, якую мы прайшлі, сувязь з палітыкай суседніх дзяржаў... Мы нічога не ведаем, як можна зрабіць, каб кожны беларус, якой бы ён ні быў канфесіі, адчуваў сябе сапраўды беларусам: каталік — не палякам, праваслаўны — не рускім... Мы не гаворым пра гісторыю беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, якая магла б стаць асновай для яднання нацыі. Нам, магчыма, трэба палітычна спрыяць беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царкве.

**Уладзімір КОЛАС, дырэктар беларускага гуманітарна-адукацыйнага цэнтра.**

— Безумоўна, трэба чакаць змен у дзяржаўнай палітыцы. Але я прадстаўляю тых, хто лічыць, што можна і трэба рабіць ужо цяпер. Мы стварылі такі ліцэй, дзе ўжо пачалі выкладанне дысцыплін, звязаных з нашай гістарычнай і культурнай спадчынай. У тым ліку выкладаецца і правазнаўства, і гісторыя рэлігій, і гісторыя мастацтва, археалогіі. Існуем мы на працягу года. Раней думалі, што дастаткова будзе скласці праграмы па дысцыплінах і выкладаць іх. Ну і каб цалкам гэту адукацыю даваць у поўным аб'ёме, проста выкарыстоўваць дысцыпліны агульнаадукацыйныя, якія распрацаваны па курсах нашай агульнаадукацыйнай школы. І мы думалі, што гэтага будзе дастаткова. Але цяпер мы адчулі сябе ў варунках гэтай савецкай школы, паколькі працуем па такой схеме: форма ўрока, колькасць гадзін на пэўныя дысцыпліны, самі гэтыя дысцыпліны прымушаюць нас і паводзіць сябе адпаведным чынам, рабіць тое, што мы не хочам. Карацей кажучы, мы прыйшлі да высновы: мала проста распрацаваць гэтыя курсы, якіх зараз бракуе ў нашай сярэдняй школе, трэба мяняць канцэпцыю адукацыі, ствараць канцэпцыю нацыянальнай адукацыі. На аснове вопыту нашага цэнтра мы хацелі б правесці канферэнцыю, падвесці рысу пад перыядам нейкіх інтуітыўных, рамантычных, эмацыянальных пошукаў, каб распачаць канструктыўную мэтанакіраваную, сістэматызаваную працу. Зацікаўленне можа адбыцца праз мову. Трэба стварыць феномен беларушчыны.

Падрыхтавала
**Таццяна АНТОНАВА.**

## ХОРУ ІМЯ ЦІТОВІЧА — 40 ГАДОЎ




**Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі, які носіць цяпер імя свайго арганізатара і мастацкага кіраўніка Генадзя Цітовіча, сёлета адзначае 40-гадовы юбілей. Фарміраваўся гэты вядомы на ўвесь свет калектыў пераважна з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і фальклорных гурткоў. Творчая дзейнасць калектыву разгортваецца ў трох асноўных кірунках: этнаграфічным, тэатралізавана-сінтэтычным і ўласна харавым. У рэпертуары хору больш за 500 канцэртных нумароў: беларускія народныя песні, танцы і найгрышы, творы беларускіх кампазітараў, народныя песні іншых народаў.**

**40-годдзю Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча быў прысвечаны святочны канцэрт у Белдзяржфілармоніі. Калектыў хору павіншавалі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч, мастацкі кіраўнік народнага аркестра імя Жыновіча Міхаіл Казінец, ансамбль ветэранаў «Памяць сэрца», выкладчыкі кафедры спеваў Мінскага інстытута культуры, ансамбль «Крупіцкія музыкі».**

**Цёпла была прынята публікай новая праграма хору.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступаюць танцавальная і харавая групы Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Генадзя Цітовіча.**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**



# СЯМІГАДОВЫ ШЛЯХ ІНБЕЛКУЛЬТА Ў НІКУДЫ І ДА НАШЫХ СЭРЦАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

большасць з іх атрымлівалі ў маштабе дарэвалюцыйных цэн па 5 рублёў у месяц, гэта значыць, у чатыры разы менш за сярэдні заработак мінскіх рабочых, якія працавалі на капіталістаў.

Не трэба думаць, што Інбелкульт адносіўся да ліку звычайных дзяржаўных устаноў, пра дзейнасць якіх мы ўжо так добра дасведчаны: збіраецца шмат выпадковых людзей, каб імітаваць працу. Не трэба цешыцца і агульнай колькасцю членаў інстытута — каля 300 чалавек у 1925—1928 гадах. У сапраўднасці штатны расклад цэнтра беларускай навукі быў вельмі сціплым. Не паспелі інбелкультаўцы адсвяткаваць зацверджанне статута 1924 года, як праз два месяцы выйшаў цыркуляр Наркамфіна аб іх чарговым скарачэнні — на 70 працэнтаў (!). З 26 пакідалася 8. Па-за штатам працавала каля 50 навукоўцаў, добраахвотна, на грамадскіх пачатках. А жылі — з выкладання ў школах, тэхнікумах, універсітэце. Аклады ў Інбелкульце заставаліся нізкімі. У 1925 годзе яго супрацоўнікам плацілі па 150 — 200 рублёў у месяц, ці крыху больш за 160-рублёвую стыпендыю для студэнтаў.

31 снежня 1926 года ўлады літасціва дазволілі колькасць штатных членаў Інбелкульта павялічыць да 20. Вядучыя спецыялісты запрашаліся з усіх устаноў Мінска на палову ці нават на чвэрць стаўкі. Толькі ў 1928 годзе колькасць ставак узрасла да 115. Але многія грамадазнаўчыя камісіі не мелі штатных адзінак. Інстытут мастацтвазнаўства Інбелкульта, напрыклад, меў усяго трох сталых супрацоўнікаў.

Не хапала кадраў. Аспірантура пры Інбелкульце адкрылася з вялікім спазненнем — у 1927 годзе. Стажыроўка за мяжой не дазвалялася. Нізкая заработная плата, адсутнасць навуковага абсталявання не прываблівалі навукоўцаў з Масквы ці Ленінграда. Выратоўвала сумяшчальніцтва. Я. Лёсік працаваў у чатырох месцах: Інбелкульце, БДУ, Сельскагаспадарчым інстытуце, Белпедтэхнікуме. Я. Колас — у тых жа установах, акрамя сельскагаспадарчай. Вяртанне беларускіх патрыётаў з-за мяжы праблему не вырашыла.

Катастрафічна не хапала памяшканняў. Б. Эпімах-Шыпіла і М. Доўнар-Запольскі сварыліся ў 1925 годзе за пакойчык для кніг. Навуковыя падраздзяленні былі раскіданы па гораду. Камісія гісторыі Беларусі не мела свайго пакоя ўвогуле.

Але што зробіш — эканамічныя цяжкасці, сказалі б мы даўней. А зараз трэба шчыра прызнацца — не, эканамічная палітыка. Занядбалы стан матэрыяльнай базы беларускай навукі 20-х гадоў — гэта вынік дзяржаўнай палітыкі. Іншая справа — неразумення ці вельмі добрага разумення ролі навуковых даследаванняў для нацыянальнага адраджэння. Такое ж пытанне ўзнікае і сёння. Грамадазнаўчыя навукі эканамічна душацца ад неразумення ці вельмі добрага разумення ролі гэтых навук у адраджэнскім працэсе?

Факты сведчаць, што дабратворны ўплыў беларусізацыі 20-х гадоў закрануў пераважна асвету. Фінансаванне навуковых даследаванняў наўмысна і мэтанакіравана абмяжоўвалася. Камуністычнае кіраўніцтва БССР наўрад ці ўсведамляла небяспеку для сябе з боку беларускай навукі, але працаўнікоў яе асцерагалася. У Інбелкульце сабраліся найбольш нацыянальна свядомыя і адукаваныя людзі. Кіруючыя партыйныя колы рэспублікі ім ніколі не давяралі і не спяшаліся з рэарганізацыяй Інбелкульта ў Акадэмію навук, спекулявалі на цяжкасцях з кадрамі. А на самай справе вялі няспынную барацьбу за павышэнне сярод навукоўцаў партыйнага ўплыву і марксісцкага светапогляду. І калі б ім удалося правесці «чыстку» Інбелкульта, яго ператварэнне ў акадэмію адбылося б намнога хутчэй. На пасяджэнні 15 студзеня 1927 года ЦК КП(б)Б палічыў, што весці гаворку аб Акадэміі навук яшчэ несвоечасова, і прыняў пастанову аб пераглядзе складу членаў Інбелкульта. Паказальна, што рашэнне аб мэтазгоднасці рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук прымалася ў Маскве (сакавік 1928), а такому ж рашэнню мясцовых улад папярэднічала пастанова ЦК КП(б)Б аб узмацненні крытыкі буржуазнага нацыяналізму (верасень 1928).

Сталіністы рыхтаваліся да расправы з беларускай інтэлігенцыяй. У 30-х — пачатку 50-х гадоў да 90 працэнтаў інбелкультаўцаў сталі ахвярамі рэпрэсій. Праглядаеш спіс членаў Інбелкульта — і сярод іх толькі адзінкі, чые нашчадкі працягваюць справу сваіх бацькоў. Р. Гарэцкі, Міцкевіч — у Беларусі, В. Кіпель — у ЗША. А колькі магло быць?..

Дык што такое Інбелкульт?

Гэта сведчанне нашай дзяржаўнай непаўнацэннасці і тэрытарыяльнай скалечанасці, кампраміс нацыянальных і вялікадзяржаўных сіл па кіраванню беларускай навукай, культурнае супраціўленне таталітарызму, нязздзейсненая мара пра нацыянальную акадэмію, трагічны шлях у нікуды ды яшчэ да нашых сэрцаў.

Гэта і наш гонар, і абраза. Гэта прастора для роздуму.

**Захар ШЫБЕКА.**



**У мінскім Палацы дзяцей і моладзі рэспубліканскае таварыства аматараў кошак «Ясь і Яніна» пры Беларускім экалагічным саюзе правяло міжнародную выставу. Са сваімі чатырохногімі сябрамі прыехалі на агляд з Масквы, Кіева, Адэсы, Гродна і іншых гарадоў уладальнікі кошак рэдкіх экземпляраў і самых розных парод. На выставе можна было атрымаць кваліфікаваныя кансультацыі, набыць неабходную літаратуру і атрыбутыку, але галоўнае — правесці экспертную ацэнку сваіх любімцаў і, вядома, палюбавацца пушыстымі прыгажунамі.**
**НА ЗДЫМКУ: адзін з самых важных «гасцей» выстаўкі інтэрчэмпіён кот Цырыль Апал. Яго гаспадыня — масквічка Іна ІЛЫЧОВА.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

## *СПОРТ*

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. У Маскве завяршыўся турнір «Усе зоркі». Мінчанін Віталь Шчэрба заняў другое месца ў мнагабор'і. У асобных практыкаваннях наш зямляк атрымаў дзве перамогі.

Шчэрба, а таксама беларуская гімнастка Святлана Багінская папалі ў склад зборнай каманды СНД, якая хутка выступіць на чэмпіянаце свету ў Парыжы.

ФРЫСТАЙЛ. Мінчанін Аляксандр Парфянкоў стаў пераможцам на чэмпіянаце і Кубку Еўропы ў лыжнай акрабатыцы. Спаборніцтвы па фрыстайлу прайшлі ў запалярным Кіраўску (Расія).

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Міжнародныя спаборніцтвы па паўмарафону (21 кіламетр 100 метраў) прайшлі ў Японіі. Беларускі спартсмен Сяргей Сокаў быў на фінішы першым, прычым устанавіў новы рэкорд трасы — 1 гадзіна 3 мінуты 43 секунды.

ФІГУРНАЕ КАТАННЕ. Алімпійская чэмпіёнка, выхаванка беларускай школы Наталля Мішкуцёнак, ізноў вызначылася, але ўжо на першынстве свету, якое прайшло ў ЗША. Тут яна паднялася на вышэйшую прыступку п'едэсталу гонару.

ПАДВОДНЫ СПОРТ. Спаборніцтвы на Кубак Еўропы сярод клубных каманд праведзены ў Славеніі. Пераможцамі і прызёрамі сярод прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь сталі А. Камісарава, П. Паліўкіна, Н. Гардзевіч, Н. Гаранінава, А. Кавальскі.

ГАНДБОЛ. Адкрыты чэмпіянат СНД завяршыўся перамогай СКІФа з Краснадара. Мінскі СКА заняў другое месца. Адзначым, што наша каманда вось ужо на працягу дванаццаці сезонаў запар станавілася або чэмпіёнам, або прызёрам гандбольных першынстваў былога Саюза.

## *У ФІЛФАКА—НАВАСЕЛЛЕ*

Нядаўна канчаткова пераехаў у будынак колішняй Вышэйшай партыйнай школы філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Пасля шматгадовых пакут у складаных умовах (заняткі часам ішлі ледзь не на калідоры) другі па колькасці студэнтаў факультэт БДУ нарэшце атрымаў больш-менш прыстойнае памяшканне на вуліцы К. Маркса, якой, магчыма, у хуткім часе вернуць старую назву—Падгорная.

У новым будынку філалагічнага факультэта прайшоў вечар яго выпускнікоў. На ўрачыстасці дэкан факультэта член-карэспандэнт АН Беларусі, прафесар Алег Лойка паведаміў аб канцэпцыі будучыні філалагічнага факультэта, аб мяркуемым стварэнні на яго аснове нацыянальнай школы філалогіі і беларусістыкі.

Цяперашнія студэнты паказалі літаратурна-мастацкую кампазіцыю па матывах творчасці Вацлава Ластоўскага, у якую цудоўна ўпісаліся гістарычныя песні гурта «Камэлот», што нагадалі слухачам часы Вялікага княства Літоўскага.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**САЛЕЙ Канстанцін Цімафеевіч** шукае стрыечнага брата **КІСЛАГА Сцяпана Фёдаравіча** і стрыечных сясцёр **КІСЛУЮ Настассю Фёдараўну** і **КІСЛУЮ Вераніку Фёдараўну.** Іхні бацька **КІСЛЫ Фёдар** перад Вялікай Айчыннай вайной жыў у Гродзенскай вобласці, Мастоўскім р-не, в. Заполле. Мяркуецца, што пасля эміграцыі з СССР ён жыў у Канадзе, г. Вініпег.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра сям'ю **КІСЛАГА Фёдара,** просім адгукнуцца на адрас: **Рэспубліка Беларусь, 231602, Гродзенская вобласць, Мастоўскі р-н, п/а Дубно, в. Заполле. САЛЕЮ Канстанціну Цімафеевічу.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Індэкс 63854. Заказ № 689.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12